*К. Р. КАРПЕКІН*

# СТАНОВІШЧА СЛУЖЫЦЕЛЯЎ ІЎДЗЕЙСКАГА КУЛЬТУ Ў БССР У СЯРЭДЗІНЕ 1927 – ПАЧАТКУ 1937 г.

Посвящена положению служителей иудейского культа (раввинов, резников, канторов и магидов) в БССР в середине 1927 – начале 1937 г. Проанализированы основные нормативные документы, регулирующие взаимоотношения государства и религиозных объединений в указанный период, на основе архивных документов рассмотрены такие виды деятельности служителей культа, как материальная помощь обедневшим членам иудейских общин, бесплатная медицинская помощь верующим, стремление сохранить приверженность еврейского населения религиозным традициям. Отражен процесс противостояния служителей иудейского культа антирелигиозной политике, которая осуществлялась КП(б)Б и правительством БССР, охарактеризованы практические мероприятия советского и партийного руководства по пресечению деятельности раввинов, резников, канторов и магидов. Результатом советской антирелигиозной политики в 1927–1937 гг. стало ухудшение материального положения служителей иудейского культа и сокращение их количества.

*Ключевые слова*: антирелигиозная политика; иудаизм; служитель культа.

Article is devoted position of attendants of a Judaic cult (rabbis, shoyhets, cantors and magids) in BSSR in the middle of 1927 – the beginning 1937 are analysed by the Author the basic standard documents regulating mutual relations of the state and religious associations during the specified period, on the basis of archival documents are considered such kinds of activity of attendants of a cult, as material aid to impoverished members of Judaic communities, free medical aid by believer, aspiration to keep adherence of the Jewish population to religious traditions. In article process of opposition of attendants of a Judaic cult to the antireligious policy which was carried out KP(b)B and government BSSR also is reflected, practical actions of the Soviet and party management for suppression of activity of rabbis, shoyhets, cantors and magids are characterised. Result of the Soviet antireligious policy in 1927 – became 1937 deterioration of financial position of attendants of a Judaic cult and reduction of their quantity.

*Key words*: the antireligious policy; Judaism; the attendant of a cult.

Існаванне іўдзейскай рэлігіі было магчымым дзякуючы служыцелям культу – асобам, асноўным заняткам якіх з’яўляліся захаванне і перадача рэлігійных ведаў у яўрэйскім асяроддзі. Сярод такіх асоб трэба назваць рабінаў, рэзнікаў (шайхетаў), кантараў (хазанаў), магідаў. Рабін узначальваў рэлігійную яўрэйскую абшчыну. Яго галоўнымі функцыямі былі правядзенне набажэнстваў, тлумачэнне вернікам асноў іўдзейскай веры, вядзенне метрычных кніг. Асноўным заняткам рэзнікаў з’яўляўся забой жывёлы і птушкі паводле асаблівых правілаў. Яўрэі-вернікі маглі харчавацца толькі такім мясам, якое называлася кашэрным (гэта значыць прыдатным да ўжывання ў ежу). Кантараў запрашалі ў сінагогі і малітоўныя дамы для спявання малітваў, песень рэлігійнага зместу. Магіды (вандроўныя прапаведнікі), выступаючы з прамовамі, таксама заклікалі яўрэяў трымацца сваёй веры.

Усталяванне савецкай улады ў кастрычніку 1917 г. выклікала змяненне становішча служыцеляў іўдзейскага культу. Яны былі пазбаўлены выбарчых правоў, права вядзення метрычных кніг, адчувалі пагаршэнне матэрыяльнага стану. З 1927 г. у БССР пачалася новая кампанія супраць служыцеляў культу. Некаторыя яе аспекты вывучаліся навукоўцамі. У прыватнасці, становішча рэзнікаў Віцебскай акругі ў гэты час прааналізавана ў даследаванні А. Зэльцара, ужыванне яўрэямі Магілёва кашэрнага мяса – у працы А. Ліціна. Л. Смілавіцкім закранута пытанне дзейнасці магідаў на Тураўшчыне. Як бачна, пералічаныя працы прысвечаны пэўным рэгіёнам Беларусі. Манаграфія Я. Басіна ахоплівае ўсю тэрыторыю БССР, але ў ёй асноўная ўвага надаецца біяграфічным звесткам пра рабінаў[1].

Мэтай дадзенага артыкула з’яўляецца аналіз становішча служыцеляў іўдзейскага культу ў БССР у сярэдзіне 1927 – пачатку 1937 г. Храналагічныя межы абумоўлены прыняццем дакументаў, якія непасрэдным чынам паўплывалі на становішча рабінаў, рэзнікаў, кантараў і магідаў: «Матэрыялаў і высноў пра яўрэйскі клерыкалізм» (лета 1927 г.) і Канстытуцыі БССР (люты 1937 г.).

Пад клерыкалізмам разумелася «сацыяльна-палітычная роля царквы як арганізатара пэўных сацыяльных пластоў пад верхаводствам кіруючай групы». Дадзеную кіруючую групу складалі так званыя носьбіты клерыкалізму – асобы, якія былі зацікаўлены ў распаўсюджванні ўплыву іўдаізму. Паводле меркавання партыйнага кіраўніцтва, у іх лік уваходзілі рабіны, рэзнікі, магіды, кантары. ЦК КП(б)Б вызначыў асноўныя формы распаўсюджвання ўплыву рабінаў на яўрэйскае насельніцтва. Партыйнае кіраўніцтва лічыла шкодным тое, што па ініцыятыве служыцеляў культу ажыццяўлялася індывідуальная матэрыяльная дапамога вернікам (ахвяраванні беднякам, парадзіхам), выдаваліся пазыкі пад невысокі працэнт, выплачваліся стыпендыі навучэнцам рэлігійных навучальных устаноў, уладкоўваліся падлеткі на навучанне ці працу да рамеснікаў, ажыццяўлялася бясплатнае медыцынскае абслугоўванне, а таксама спрыянне ў выкананні рэлігійных абрадаў (напрыклад, рассылка бясплатнай мацы перад Пэйсахам, дапамога ў арганізацыі пахаванняў памерлых). На думку партыйнага кіраўніцтва, такая дабрачынная дзейнасць спрыяла росту аўтарытэту рабінаў сярод яўрэяў і адпаведна падмацоўвала станоўчае стаўленне апошніх да рэлігійных традыцый. Асцярога ЦК КП(б)Б была выклікана яшчэ і тым, што ў пэўнай ступені пералічаная вышэй дзейнасць ажыццяўлялася з дапамогай грашовых сродкаў, атрыманых служыцелямі іўдзейскага культу з-за мяжы (Прыбалтыкі, Заходняй Еўропы, ЗША). Матэрыяльныя каштоўнасці здабываліся шляхам рассылкі беларускімі рабінамі лістоў, у якіх зазначалася, што яўрэі БССР знаходзяцца ў крайне цяжкім становішчы, прыгнятаюцца савецкай уладай.

Шкоднай была прызнана таксама дзейнасць рэзнікаў, кантараў і магідаў.

Усе служыцелі іўдзейскага культу былі прыраўнаваны да класавых ворагаў, таму іх неабходна было «падавіць, дэмаралізаваць, узарваць знутры». ЦК КП(б)Б прызнаў, што адной антырэлігійнай прапаганды недастаткова, трэба было прымяніць яшчэ і рэпрэсіўныя меры[2].

Да барацьбы з клерыкалізмам быў прыцягнуты і камсамол. У тым жа 1927 г. ЦК ЛКСМБ прыняў пастанову «Аб удзеле ЛКСМ у працы партыі сярод яўрэйскай беднаты». У ёй адзначалася, што служыцелі іўдзейскага культу маюць вялікі ўплыў на бяднейшыя пласты яўрэйскага насельніцтва, які ўзнікае дзякуючы аказанню ім разнастайнай матэрыяльнай дапамогі. Гэтая дапамога «згладжвала класавыя супярэчнасці», таму, на думку ЦК ЛКСМБ, яе трэба было ліквідаваць шляхам паляпшэння дабрабыту яўрэяў, якое б успрымалася як дапамога савецкай улады[3].

Такім чынам, ЦК КП(б)Б паклаў пачатак кампаніі па ўзмацненні ў рэспубліцы прыцяснення служыцеляў іўдзейскага культу.

У падтрымку гэтай кампаніі былі ажыццёўлены новыя заканадаўчыя меры. Так, у прынятым у лістападзе 1928 г. Крымінальным кодэксе БССР прадугледжвалася пакаранне за прапаганду і агітацыю з заклікамі да звяржэння савецкай улады, распаўсюджванне забабонаў сярод насельніцтва з мэтай атрымання нейкіх выгод, усялякі прымус пры зборы сродкаў на карысць рэлігійнай абшчыны. Меры ўздзеяння вагаліся ад шасці месяцаў прымусовых работ да трох гадоў турэмнага зняволення.

8 красавіка 1929 г. у рэчышчы згаданых вышэй сакрэтных «Матэрыялаў і высноў» ВЦВК і СНК РСФСР прынялі пастанову «Аб рэлігійных аб'яднаннях», якая забараняла іўдзейскім абшчынам аказваць матэрыяльную, медыцынскую дапамогу сваім сябрам, арганізоўваць разнастайныя групы, гурткі і куткі для сумеснай працы. З 1929 г. тэрыторыя дзейнасці служыцеляў культу абмяжоўвалася месцажыхарствам сяброў абслугоўваемай імі абшчыны[4]. Органы савецкай улады Беларусі ў сваёй дзейнасці таксама карысталіся згаданай пастановай.

У сувязі з гэтым 1 снежня 1930 г. у БССР быў уведзены строгі парадак рэгістрацыі служыцеляў іўдзейскага культу. Для гэтага была распрацавана спецыяльная анкета, якая ўтрымлівала пытанні пра імя рабіна ці рэзніка, дату яго нараджэння, род заняткаў з 1914 г., памер атрымліваемага заробку, абслугоўваемую тэрыторыю, адрас пражывання. Каб служыцеля культу зарэгістравалі, вернікі павінны былі запоўніць такую анкету і накіраваць яе мясцовым органам улады. Калі яны разглядалі пытанне станоўча, рэлігійнай абшчыне выдавалася даведка, у якой паведамлялася, што пэўнаму служыцелю культу дазволена ажыццяўляць рэлігійную дзейнасць. Такім чынам, рабіны і рэзнікі не мелі непасрэдных зносін з органамі савецкай улады, пасрэднікамі паміж імі станавіліся іўдзейскія абшчыны. Да таго ж цяпер дзейнасць служыцеляў культу строга абмяжоўвалася пэўнай тэрыторыяй – месцапражываннем сяброў абшчыны і месцазнаходжаннем культавага будынка.

Тым не менш і ў гэты час служыцелі іўдзейскага культу вялі актыўную дзейнасць. Матэрыяльная дапамога аказвалася збяднеламу яўрэйскаму насельніцтву ў многіх гарадах і мястэчках Беларусі. Так, у 1927 г. у Сіроціне рабін арганізаваў для гэтага таварыства з трох жанчын, якія збіралі грошы. У Дрыбіне служыцель культу дапамагаў яўрэям-саматужнікам выплачваць крэдыты, у Любані з дапамогай лідара абшчыны бедныякі выплачвалі падаткі. Беспрацэнтнае крэдытнае таварыства існавала ў 1927 г. у Оршы, так званыя касы ўзаемадапамогі, у 1930 г. – у многіх сінагогах Мінска[5]. Пэўныя сумы для аказання такой дапамогі рабіны атрымлівалі з-за мяжы і потым размяркоўвалі паміж сябрамі абшчыны. У прыватнасці, у 1927 г. грошы з ЗША паступалі ў Старыя Дарогі, Сіроціна, Талачын, у 1929 г. – у Пухавічы.

Дзякуючы рабінам, рэлігійнымі абшчынамі ажыццяўлялася дабрачынная дзейнасць. Яны аплачвалі медыцынскае абслугоўванне бедных яўрэяў, пры неабходнасці выклікалі да іх доктара, акушэра. У 1927 г. у Горках увогуле практыкавалася бясплатная выдача лекаў з дзяржаўнай аптэкі па пісьмоваму хадайніцтву рабіна[6].

Спрыянне служыцеляў іўдзейскага культу ў выкананні яўрэямі рэлігійных абрадаў праявілася ў выпечцы мацы перад святам Пэйсах і раздачы яе беднаце, дапамозе яўрэйскім традыцыйным пахавальным брацтвам хеўраў-кадыша. Так, масавая раздача мацы бедным яўрэям мела месца ў 1929 г. у Аршанскай акрузе. У Барысаве да 1930 г. вырабляліся спецыяльныя пэйсаховыя талеркі, на якіх быў адлюстраваны парадак размяшчэння традыцыйнай святочнай ежы. Такі посуд развозіўся ў суседнія гарады. Напрыклад, у Магілёў вясной 1930 г. было дастаўлена 250 такіх талерак. У 1930 г. у Мінску рабіны публічна асудзілі яўрэя, які ажаніўся з беларускай. У 1935 г. рабін Турава перад Пэйсахам хадзіў па мястэчку і заклікаў усіх яўрэяў пячы мацу – не адыходзіць ад традыцый[7]. У 1936 г. рабіны Магілёва з мэтай захавання рэлігійных традыцый арганізоўвалі малітвы ў прыватных кватэрах, бо да гэтага часу амаль усе сінагогі горада былі зачынены[8].

Што датычыцца хеўраў-кадыша, то вядома, што ў 1929 г. яны дзейнічалі ў Бабруйску, Барысаве. Найбольшым аўтарытэтам хеўры-кадыша карысталіся ў мястэчках, бо камунальныя аддзелы райвыканкамаў, якія павінны былі займацца пахаваннем памерлых і доглядам могілак, далёка не заўсёды ажыццяўлялі свае функцыі на належным узроўні. У прыватнасці, такая сітуацыя назіралася ў Лядах, Парычах, многіх мястэчках Віцебскай акругі[9].

Нярэдка дзейнасць служыцеляў іўдзейскага культу па захаванні традыцый прыходзіла ў сутыкненне з мерапрыемствамі савецкай улады. Найперш гэта імкненне рабінаў супрацьстаяць закрыццю сінагог і малітоўных дамоў. Напрыклад, у 1928 г. у Гарадку рабін разам з групай вернікаў адкрыта выступіў супраць перадачы сінагогі пад клуб. Асабліва актыўнымі такія захады былі падчас кампаніі 1929–1930 гг. Восенню 1929 г. рабіны разам з вернікамі адстойвалі мінскую Нямігскую сінагогу (збіралі подпісы супрацьператварэння яе ў клуб, намерваліся напісаць у Маскву ліст з просьбай пакінуць ім будынак). Аналагічныя падзеі адбыліся ў канцы 1929 г. у Чарэі. Там рабінам удалося захаваць сінагогу.

У 1933 г. у Лагойску рабін абвінаваціў камсамольцаў у тым, што яны збіралі подпісы за закрыццё сінагогі ў непаўналетніх дзяцей. Тым самым ён жадаў даказаць, што ўлады не маюць права зачыніць культавы будынак[10].

У многіх гарадах і мястэчках рабіны агітавалі яўрэяў аддаваць сваіх дзяцей у хедары (пачатковыя рэлігійныя школы). Адпаведна кіраўніцтва БССР успрымала гэта як ігнараванне савецкіх школ. Дастаткова часта аргументам рабінаў супраць гэтых навучальных устаноў была іх кепская матэрыяльная база і немагчымасць у такіх умовах даць дзецям якасную адукацыю.

Увогуле, урад Беларусі быў схільны бачыць у любой дзейнасці рабінаў антысавецкую скіраванасць. Так, у 1929 г. слуцкія рабіны былі абвінавачаны ў распаўсюджванні чутак пра тое, што ў крамах хутка не будзе газы, мінскія рабіны прадавалі кантрабандны галантарэйны тавар, тым самым дэзарганізоўваючы савецкі гандаль. Улады Мінска, Клімавічаў абвінавачвалі рабінаў у агітацыі супраць перасялення яўрэяў у Бірабіджан. У Падабранску, паводле меркавання местачковых камуністаў, служыцелі іўдзейскага культу сарвалі ўтварэнне яўрэйскага нацыянальнага калгаса. Актыўнасць рабінаў адзначалі многія райкамы КП(б)Б. Напрыклад, у «Матэрыялах і высновах пра яўрэйскі клерыкалізм па Сіроцінскім раёне», датаваных 1927 г., зазначалася: «У мястэчку маецца рабін, апошні групуе вакол сябе больш заможныя элементы, якія зусім выпадкова збіраюцца разам у сінагозе, дзе абмяркоўваюць розныя пытанні местачковага жыцця. Яны пры правядзенні якой-небудзь паліткампаніі адклікаюцца і імкнуцца правесці сваю лінію, што ім часта ўдаецца». Паводле назіранняў Краснапольскага райкама партыі, аўтарытэтам карыстаўся і рабін Краснаполля: «Пра яго кажуць як пра разумнага чалавека. Рабін рэгулярна выпісвае і чытае “Известия ЦИК СССР и ВЦИК”, і, паводле адозваў многіх, ён у курсе міжнароднага становішча СССР».

Актыўна заклікалі яўрэяў трымацца веры магіды. У 1927–1928 гг. 1 магід пабываў у Чавусах, па 2 прапаведнікі – у Бялынічах і Журавічах, па 4 – у Краснаполлі і Прапойску, 6 – у Чэрыкаве, 9 – у Крычаве, 10 – у Быхаве, больш за 12 магідаў – у Саматэвічах і Касцюковічах[11]. У канцы 1920-х гг. магіды наведвалі таксама Сіроціна, Шуміліна, Дрыбін, Багушэўск, Ветку[12]. Пры гэтым меліся выпадкі, калі іх пропаведзі прыходзілі паслухаць не толькі іўдзеі, але і сябры Саюза ваяўнічых бязбожнікаў.

Як адзначалася вышэй, паводле савецкага заканадаўства, магіды мелі права рабіць прамовы толькі на рэлігійныя тэмы. Тым не менш, заклікаючы яўрэяў захоўваць свае традыцыі, яны нярэдка пераходзілі да праблемы цяжкага становішча іўдаізму ў БССР, а затым і да несправядлівасці савецкай улады ўвогуле. Так, у 1927 г. магід, прыехаўшы ў Тураў, казаў, што яўрэі павінны навучаць дзяцей рэлігіі, нягледзячы на тое, што многія хедары ўжо зачынены савецкай уладай. Затым ён адзначыў, што ў Савецкім Саюзе рэлігія знаходзіцца ў прыгнечаным стане, але пры роўных умовах яна абавязкова перамагла б бальшавіцкую ідэалогію[13]. У 1930 г. адзін з мінскіх прапаведнікаў у сваёй прамове перад іўдзеямі падкрэсліваў, што «наша становішча цяпер не лепш, чым у егіпецкім выгнанні, чым падчас іспанскай інквізіцыі». Яўны палітычны падтэкст бачыўся таксама ў пропаведзях магідаў, якія ў канцы 1920-х – пачатку 1930-х гг. пабывалі ў Мазыры, Бабруйску, Парычах, Любані, Старых Дарогах, Жлобіне, Глуску.

Нярэдкай з’явай былі прыезды ў сінагогі Беларусі кантараў. Іх спевы мелі чыста рэлігійны змест. Тым не менш яны выклікалі незадавальненне савецкіх і партыйных органаў, бо, на іх думку, кантары арганізоўвалі свае выступленні якраз у час значных грамадскіх мерапрыемстваў (напрыклад, справаздачных ці перавыбарных сходаў мясцовых Саветаў), тым самым адцягваючы ад удзелу ў іх яўрэйскае насельніцтва.

Дзейнасць служыцеляў іўдзейскага культу сустрэла незадавальненне з боку савецкіх і партыйных органаў. У перыядычным друку былі змешчаны матэрыялы, у якіх рабіны, рэзнікі, кантары і магіды характарызаваліся крайне адмоўна. Напрыклад, у адным з артыкулаў зазначалася, што клерыкалізм стаў занадта «фанабэрыстым на яўрэйскай вуліцы», у іншым – што «нахабства яўрэйскай рэакцыі сягае так далёка, што яны ўжо выступаюць у сінагогах супраць яўрэйскіх савецкіх школ, супраць захадаў Савецкай улады па аздараўленні эканомікі яўрэйскага насельніцтва»[14]. Рабіны былі названы «агентамі сусветнага імперыялізму», якія пад прыкрыццём рэлігіі зміналі ўсім мерапрыемствам савецкай улады і камуністычнай партыі. Яшчэ ў адным агітацыйным матэрыяле давалася своеасаблівая ўстаноўка для далейшай дзейнасці: «Яўрэйскі клерыкалізм нахабна ўзняў сваю галаву – трэба яе адсекчы!»[15]

Адначасова з абвінавачваннем служыцеляў іўдзейскага культу ў антысавецкай дзейнасці кіраўніцтва БССР узяло курс на раз’яднанне служыцеляў культу, імкнулася не дапусціць кансалідацыі беларускіх рабінаў. У прыватнасці, летам 1927 г. яўрэйскае бюро ЦК КП(б)Б выказалася супраць дазволу на правядзенне ўсесаюзнага з’езда рабінаў у Ленінградзе. Сябры бюро заявілі, што такі з’езд зможа паспрыяць аб’яднанню і ўзмацненню пазіцый служыцеляў іўдзейскага культу. Таксама ЦК КП(б)Б заўважыў, што падобныя з’езды можна дазваляць толькі ў межах пэўнай савецкай рэспублікі, а не СССР увогуле і выключна ў выпадках «яўна азначанага размежавання і групавой барацьбы ў асяроддзі яўрэйскага клерыкалізму»[16].

Таксама органы савецкай улады ажыццяўлялі захады па ўзмацненні барацьбы паміж дзвюма плынямі іўдаізму – міснагдызмам і хасідызмам. Вялася праца па выяўленні прыхільнікаў таго ці іншага накірунку ў гарадах і мястэчках Беларусі. Так, у канцы 1929 г. Віцебскі акруговы аддзел ДПУ БССР паведамляў: «Антаганізм быў актывізаваны і прывёў да вострай барацьбы двух варагуючых лагераў клерыкалаў. На гэтай глебе вялася ўвесь час размежавальная праца сярод клерыкалаў, і на прыкладзе дзвюх сутыкнуўшыхся клерыкальных груп адбывалася заўважальнае і бесперапыннае паніжэнне рэлігійных настрояў яўрэйскага веруючага насельніцтва»[17].

Савецкая ўлада імкнулася перапыняць кантакты паміж беларускімі і замежнымі рабінамі. У прыватнасці, у 1930 г. у Мінску была выяўлена і ліквідавана «контррэвалюцыйная арганізацыя рабінаў», якая кантактавала з прадстаўнікамі Літвы, Францыі, ЗША. Мінскія рабіны былі абвінавачаны ў арганізацыі нелегальных хедараў, захоўванні забароненай літаратуры, кантрабандных тавараў.

Дзеля пагаршэння матэрыяльнага стану рабінаў і рэзнікаў савецкай уладай была распачата ўзмоцненая барацьба з кашэрным забоем жывёлы і «скрынкавымі зборамі» з продажу мяса, мукі, а таксама свечак. У гарадах і мястэчках Беларусі пачалося выяўленне скатабойняў, дзе адбываўся забой жывёлы паводле іўдзейскай традыцыі. У лютым 1928 г. такая ўстанова была выяўлена ў Мінску. Гарадскія ўлады падлічылі, што за забой буйных жывёлін (не лічачы авечак, коз і птушкі) адзін з мінскіх рабінаў атрымліваў штомесяц каля 800 рублёў (40 % усяго даходу). Астатнія грошы размяркоўвалі паміж сабой 6 рэзнікаў. З гэтай прычыны, а таксама дзеля звужэння сферы ажыццяўлення рэлігійных абрадаў улады забаранілі традыцыйны яўрэйскі забой. У тым жа 1928 г. рэзнікам Быхава было забаронена прадаваць мяса праз кааперацыйныя крамы[18].

Нягледзячы на такія меры, у 1930-я гг. сярод яўрэяў усё яшчэ трымалася традыцыя ўжывання кашэрнага мяса. Традыцыйны забой жывёлы адбываўся падпольна, пра дамоўленасць рэзнікаў з гандлярамі мясам не магло ісці ніякай гаворкі. Формы барацьбы з продажам такой прадукцыі станавіліся больш суровымі. Калі раней улады абмяжоўваліся, як правіла, толькі забаронай продажу, то, напрыклад, у Оршы асобы, якія гандлявалі кашэрным мясам, былі аддадзены пад суд. Падобныя меры збіраліся прыняць улады Полацка ў 1936 г., калі выявілі нелегальную бойню[19].

Цяжкія матэрыяльныя ўмовы, непаўнапраўнае становішча ў савецкім грамадстве вялі да скарачэння колькасці служыцеляў іўдзейскага культу. На тэрыторыі Магілёўскай акругі да 1928 г. засталося 11 рабінаў[20], у Віцебскай акрузе ў 1929 г. – 16[21]. У 1930 г. адмовіліся ад сваіх пасад рабіны Чашнікаў, Веткі, рэзнікі Гомеля, Добруша, Чарэі. Да 1934 г. на тэрыторыі Касцюковіцкага раёна не засталося ніводнага рабіна, быў толькі 1 рэзнік (у Хоцімску)[22].

З прыведзеных вышэй фактаў вынікае, што з лета 1927 г. становішча служыцеляў іўдзейскага культу БССР значна пагоршылася. Гэта было выклікана ўзмацненнем наступу на іх з боку савецкага і партыйнага кіраўніцтва, і ў першую чаргу – абвяшчэннем ЦК КП(б)Б пра неабходнасць барацьбы з яўрэйскім клерыкалізмам. Дадзеная акалічнасць, а таксама ўвядзенне больш строгага парадку рэгістрацыі прывялі да ўскладнення ўмоў дзейнасці рабінаў, рэзнікаў, кантараў і магідаў. З лета 1927 г. савецкая ўлада і камуністычная партыя вялі рашучую барацьбу з такімі відамі дзейнасці рабінаў, як аказанне матэрыяльнай дапамогі вернікам, падтрымка рэлігійных традыцый, дабрачынная дзейнасць. Савецкая ўлада імкнулася да скарачэння ўжывання яўрэямі кашэрнага мяса, абмяжоўвала выступленні магідаў і кантараў, абвінавачваючы іх у палітызацыі прамоў. Адначасова кіруючыя колы БССР узялі курс на стварэнне ўмоў для расколу іўдаізму. Яны супрацьстаялі правядзенню з'ездаў рабінаў, спрыялі канфрантацыі двух накірункаў рэлігіі. Такім чынам, у сярэдзіне 1927 – пачатку 1937 г. у БССР назіралася скарачэнне колькасці служыцеляў іўдзейскага культу і згортванне іх дзейнасці.

БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС


[1] Гл.: Зельцер А. Евреи советской провинции: Витебск и местечки, 1917–1941. М., 2006. С. 250–251, 262; История могилевского еврейства: документы и люди: научно-популярные очерки и жизнеописания: в 2 кн. / сост. А. Литин. Минск, 2006. Кн. 2. Ч. 1. С. 148–149; Смиловитский Л. Евреи в Турове: история местечка Мозырского Полесья. Иерусалим, 2008. С. 526; Басин Я. Большевизм и евреи: Белоруссия, 1920-е гг.: ист. очерки. Минск, 2008. С. 120–122, 128–135.

[2] Гл.: Дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці (ДАВВ). Ф. 10051-п. Воп. 1. Спр. 444. Л. 56–64.

[3] Гл.: ДАВВ. Ф. 321-п. Воп. 1а. Спр. 74. Л. 154.

[4] Гл.: Собрание узаконений и распоряжений рабоче-крестьянского правительства РСФСР. 1929. № 35. С. 476.

[5] Гл.: Киржниц А. Трудящиеся евреи в борьбе с религией (из итогов 1929–1930 гг.). М., 1931. С. 57.

[6] Гл.: ДАВВ. Ф. 10062-п. Воп. 1. Спр. 522. Л. 58.

[7] Гл.: Розенфельд П. К итогам кампании против иудейской пасхи // Антирелигиозник. 1935. № 3. С. 35.

[8] Гл.: Хаитов Л. Итоги пропаганды против еврейских осенних религиозных праздников // Антирелигиозник. 1936. № 6. С. 41.

[9] Гл.: ДАВВ. Ф. 10051-п. Воп. 1. Спр. 742. Л. 119.

[10] Гл.: Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Ф. 12. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 10–10 адв.

[11] Гл.: Дзяржаўны архіў грамадскіх аб'яднанняў Магілёўскай вобласці (ДАГАМВ). Ф. 6577. Воп. 1. Спр. 271. Л. 138–139, 141, 143–144, 147, 149, 151.

[12] Гл.: Дзяржаўны архіў Гомельскай вобласці. Ф. 633. Воп. 1. Спр. 268. Л. 16 адв.

[13] Гл.: НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 1. Спр. 2424. Л. 168.

[14] אקון ב. די שול אין אנגריף קעגן פייסעך // וויטעבסקער ארבעטער. 1929. 6 אפרעל (Б. Акунь. Школа ў змаганні з Пэйсахам // Віцебскі рабочы. 1929. 6 крас.).

[15] אקון ב. א קאמף קעגן דער יידישער רעליגיע // וויטעבסקער ארבעטער. 1929. 11 מאי (Б. Акунь. Барацьба супраць яўрэйскай рэлігіі // Віцебскі рабочы. 1929. 11 мая).

[16] НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 1. Спр. 3619. Л. 32–33 адв.

[17] ДАВВ. Ф. 10051-п. Воп. 1. Спр. 742. Л. 118.

[18] Гл.: НАРБ. Ф. 750. Воп. 1. Спр. 567. Л. 27.

[19] Гл.: ДАВВ. Ф. 10061-п. Воп. 2. Спр. 20. Л. 187–188.

[20] Гл.: ДАГАМВ. Ф. 6577. Воп. 1. Спр. 271. Л. 138–139, 141–144, 147–151.

[21] Гл.: ДАВВ. Ф. 10051-п. Воп. 1. Спр. 742. Л. 118.

[22] Гл.: НАРБ. Ф. 261. Воп. 1. Спр. 27. Л. 40.


Паступіў у рэдакцыю 01.11.11.

***Канстанцін Рыгоравіч Карпекін*** – галоўны захавальнік фондаў Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці.